

Сакавік. Паўночны Саскачэн.
Зіма сюды прыходзіць рана і застаецца надоўга.
Тут да павароту ўжо недалёка.
Як толькі праедзем возера Ла-Плонж, выедзем на 155-ую шашу, а там – на поўдзень, і снедаць ужо будзем у Прынц-Альберце.
А да абеду ў Саскатуне, калі ня трапім у затор.
Я ня вядаю **ніводнай** з такіх назваў. Калі мы даедзем да Фэйблтаўна?
Прама з лесу
Глава першая. Марш драўляных салдатаў
Bill Willingham writer/creator
Mark Buckingham penciller
Steve Leialoha inker
Daniel Vozzo color/seps
Todd Klein lettering
James Jean cover art
Mariah Huehner assistant editor
Shelly Bond editor


ГЭТА ЗНАЧНА ДАЛЕЙ, АЛЕ ТЫ БУДЗЕШ ТАМ НА НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ.
МЫ ПАСАДЗІМ ЦЯБЕ НА САМАЛЁТ У САСКАТУНЕ.
САМАЛЁТ? ВЫ МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ ЛЯТУЧУЮ МАШЫНУ? Я ШТО, САПРАЎДЫ БУДУ **ЛЯТАЦЬ**?
БЕЗУМОЎНА, НЕ ХВАЛЮЙСЯ. ГЭТА ДАСТАТКОВА БЯСПЕЧНА. УСЕ КАРЫСТАЮЦЦА САМАЛЁТАМІ.
ЯНЫ МАЮЦЬ РАЦЫЮ. ГЭТА **САПРАЎДЫ** ЗЯМЛЯ ДЗІВАЎ.
ТЫ І ПАЛОВЫ НЯ ВЕДАЕШ. ЛЮДЗІ МОГУЦЬ ГУТАРЫЦЬ АДЗІН З АДНЫМ З РОЗНЫХ ЧАСТАК СВЕТУ, І ГЭТА КАШТУЕ ТАННЕЙ, ЧЫМ АДЗІН АБЕД.
А Ў КОЖНАЙ ХАЦЕ ЁСЦЬ КАРОБКА, З ЯКОЙ ГРАЕ МУЗЫКА, І ІНШАЯ КАРОБКА, ЯКАЯ ЗБІРАЕ ІНФАРМАЦЫЮ. ТАКСАМА ЁСЦЬ КАРОБКА ДЛЯ... НУ, Я ЛІЧУ, ГЭТА МОЖНА АПІСАЦЬ ЯК БЯСКОНЦАЕ **ЛЯЛЕЧНАЕ** ШОЎ.
ЧАГО Б ТЫ НІ ПАЖАДАЛА, КАМЕДЫЮ ЦІ ТРАГЕДЫЮ, ПРОСТА НАЦІСКВАЕШ НА КНОПКУ.
І ЎСЁ ГЭТА НЯ ТОЛЬКІ ДЛЯ ШЛЯХТЫ. НАВАТ У ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ ЁСЦЬ ТАКІЯ ШТУКІ.
ДЗІЎНА.
І ЎСЁ Ж МЫ НАЗЫВАЕМ ЯГО ЗВЫЧАЙНЫМ СВЕТАМ.


АСЦЯРОЖНА!
ЯКОГА ЛЯСУНА?
ГОБЛІНЫ?
ЯК?
ПОТЫМ БУДЗЕМ МЕР-КАВАЦЬ, ЯК.
УЖО ШМАТ ГАДОЎ ПРАЙШЛО З ТАГО МОМАНТУ, КАЛІ МНЕ ДАВОДЗІЛАСЯ АПУСКАЦЬ ДУБІНУ НА ГАЛАВУ ГОБЛА... І, ПРАЎДУ КАЖУЧЫ, Я СУМАВАЎ.
ПОЙДЗЕМ, МАЛОДШАНЬКІ.
ПРЫЙШОЎ ЧАС ТАБЕ ДАВЕДАЦЦА, ЯКОЙ РАНЕЙ БЫЛА СЯМЕЙНАЯ СПРАВА.
Я ЗА ТАБОЙ, ТАТКА.


А пакуль на крайняй поўначы да вясны яшчэ тыдні і месяцы, яна ўжо зрабіла першыя нясмелыя крокі ў Нью-Ёрку.
Тут ёсць хто?
Эм?
Ёсць хто?
4


КАЛІ ТУТ ХТОСЬЦІ ЁСЦЬ, ЛЕПЕЙ **СКАЖЫЦЕ**.
ГЭТА Я, **БЕЛА**.
КОЛІН!
ТЫ МЯНЕ ЛЕДЗЬ ДА **СМЕРЦІ** НЕ НАПУЖАЎ.
ШТО ТЫ ТУТ **РОБІШ** ПАСЯРОД НОЧЫ?
Я НЕ ЖАДАЎ **БУДЗІЦЬ** ЦЯБЕ.
ТЫ ЗАКАПАЎ МНЕ **КРЫВЁЙ** УСЮ КАНАПУ.
ПРАБАЧ, НЕ МАГУ НІЧОГА ЗРАБІЦЬ, АЛЕ ЯНА ПАВІННА ЗНІКНУЦЬ РАЗАМ СА МНОЙ.
І ЯК ГЭТА БЫЦЬ... ЭМ?
БЫЦЬ **МЁРТВЫМ**? НЯ ТАК І КЕПСКА. УЛІЧВАЮЧЫ ЎСЕ АБСТАВІНЫ.


ЯК СПРАВЫ Ў ФЭЙБЛТАЎНЕ І НА ФЕРМЕ? ЯК ПАЖЫВАЮЦЬ НОВЫЯ ПАРАСЯТЫ?
ЛІЧУ, ДОБРА. РУЖА ЦЯПЕР КІРУЕ ФЕРМАЙ. ТАМУ Я НЯ ЧАСТА ТУДЫ ЕЗДЖУ.
НУ, **БУДЗЕШ**, КАЛІ НАРОДЗЯЦЦА **ДЗЕЦІ**.
ДЗЕЦІ? **НЕКАЛЬКІ?**
ВЕДАЕШ... ІМ НЯ БУДЗЕ ДАЗВОЛЕНА ЗАСТАВАЦЦА ТУТ.
ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ? ЧАМУ ІМ **НЕЛЬГА** БУДЗЕ?
МЫ НЯ МОЖАМ ГУТАРЫЦЬ ПРА ГЭТА ЗАРАЗ, БЕЛА. Я НЯ ВЕДАЮ, ЯК ДОЎГА Я МАГУ ЗАСТАВАЦЦА ТУТ, І МНЕ ТРЭБА **ПАПЯРЭДЗІЦЬ** ЦЯБЕ.
ПРА **ШТО**?
СПРАВЫ ХУТКА ПОЙДУЦЬ ДРЭННА. **ВЕЛЬМІ** ДРЭННА. НЯ ТОЛЬКІ ДЛЯ ЦЯБЕ, АЛЕ ДЛЯ ЎСЯГО ФЭЙБЛТАЎНА.
МАБЫЦЬ НАВАТ І ДЛЯ ЗВЫЧАЙНЫХ, **КАЛІ** ТЫ НЯ ЗМОЖАШ СПЫНІЦЬ ГЭТА.
Я НЕ РАЗУМЕЮ, **ШТО** ЗДАРЫЦЦА?



ВЫ ЎСЕ СПАТРЭБІЦЕСЯ, КАБ СПЫНІЦЬ ГЭТА... КАБ **ВЫЖЫЦЬ**.
СПЫНІЦЬ **ШТО**? ЧАМУ ТЫ ТАКІ **ЗАГАДКАВЫ**? РАСКАЖЫ МНЕ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ **ПАДРАБЯЗНАСЦІ**.
Я **НЯ ВЕДАЮ** НІЧОГА. Я ПАВЕДАМІЎ ТАБЕ ЎСЁ, ШТО ВЕДАЮ.
НЯЗНАЧНЫ З **ЦЯБЕ** ПАМОЧНІК.
Я Б І САМ ЖАДАЎ РАСКАЗАЦЬ ТАБЕ БОЛЕЙ. Я РАДЫ, ШТО ТЫ **ЗДОЛЕЛА**, БЕЛА. Я РАДЫ БАЧЫЦЬ ЦЯБЕ. ТЫ АЧУНЯЛА.
НЕ ЗУСІМ. У МЯНЕ БЫВАЮЦЬ ВОСТРЫЯ БОЛІ І ГАЛАВАКРУЖЭННІ.
ТАМУ ГЭТА ПРАКЛЯТАЯ **ПАЛКА** БУДЗЕ ПАТРЭБНА МНЕ ДА КАНЦА ЖЫЦЦЯ.
УСЁ Ж ГЭТА ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ЗНЯВЕЧАНАЯ ГАЛАВА НА ШАСЦЕ З ВОСТРАЙ **ПАЛКІ**.
ГЭТА **ТАК**.
МНЕ ПАРА ІСЦІ.
КАЛІ ПРАЧНЕШСЯ, ПАСПРАБУЙ УСПОМНІЦЬ, ШТО Я ТАБЕ СКАЗАЎ.
ЯКОГА ЛЯСУНА..?
КОЛІН?


УУУЭЭЭ
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, МУХАЛОЎ.
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ГРЫМБЛ. ПАСТУШОК УЖО АДЧЫНІЎ ОФІС?
НЕ-А. ТАБЕ ТРЭБА ПРАЙСЦІ САМОМУ.
ЯНЫ ЎСЁ ЯШЧЭ Ў ПАДЗЯМЕЛЛІ СІНЕБАРОДА. ЯНЫ ТАМ НА ЎСЮ НОЧ.
ВОСЬ, ШТО МЫ ЗНАЙШЛІ ПАСЛЯ МАЁЙ АПОШНЯЙ СПРАВАЗДАЧЫ, СЭР.


ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ЗАЛАТЫХ МАНЕТ БОКСАНА, ДВАЦЦАЦЬ ДЗВЕ СОТНІ РАЗМЕННЫХ ЗАЛАТЫХ ЗЛІТКАЎ ПА ПАЦЬДЗЕСЯТ УНЦЫЙ, ШЭСЦЬ ПОЎНЫХ КУФАРАЎ СРЭБРА З ІЗУМРУДНАГА ГОРАДА. І ГЭТА ТРЭБА ЯШЧЭ ПЕРАЛІЧЫЦЬ.
ТАКСАМА ЁСЦЬ АСОБНЫЯ КУФАРЫ ДЛЯ ДЫЯМЕНТАЎ, РУБІНАЎ І ІЗУМРУДАЎ. ЦЭЛЫ ПАКОЙ АПРАЦАВАНЫХ КАШТОЎНАСЦЯЎ.
І СПІС ПРАЦЯГВАЕЦЦА. ЧОРТ, СЭР, МЫ І ЗАРАЗ ЗНАХОДЗІМ ПАТАЕМНЫЯ СХОВІШЧА.
ГЭТА МЕСЦА – ЛАБІРЫНТ.
ЦУДОЎНА, ХІБА НЯ ТАК?
І ПАГЛЯДЗІ ЎСЕ ГЭТЫЯ РАХУНКІ Ў БАНКАХ **ЗВЫЧАЙНЫХ**, ЯКІЯ Ў ЯГО БЫЛІ ПАД РОЗНЫМІ ІМЁНАМІ.
АДВАЖУСЯ СКАЗАЦЬ, ШТО НАШ ПОЗНІ СПАДАР СІНЕБАРОД (АТРЫМАЕ СПАЧЫН ЯГО ДУША) МОГ КУПІЦЬ І ПРАДАЦЬ КОЖНАГА Ў **ФЭЙБЛТАЎНЕ**.
СПАДАР МЭР, МНЕ ТРЭБА ПАГУТАРЫЦЬ З ВАМІ.
БЕЗУМОЎНА, БОЗЛІ, БЕЗУМОЎНА. АЛЕ НЯ ЗАРАЗ, Я ВЕЛЬМІ ЗАНЯТЫ.
НЯ ПОЙДЗЕ, СПАДАР МЭР. ВЫ ЎЖО **НЯ ПЕРШЫ** ТЫДЗЕНЬ ХАВАЕЦЕСЯ АД МЯНЕ.
НУ ДОБРА. Я МАГУ ЎДЗЯЛІЦЬ ТАБЕ **ПАРУ** ХВІЛІН. ПОТЫМ НАЗАД ДА СПРАВЫ.


ВЕДАЎ Я СТАРУЮ, ШТО З'ЕЛА МУХУ.
І Я ВЕДАЮ, НАВОШТА ЯНА ЯЕ ПРАГЛЫНУЛА.
ТАМУ ШТО МУХІ – ДОБРАЯ ЗАКУСЬ.
ЛЮСТЭРКА, ЛЮСТЭРКА, ШТО НА ПАДЛОЗЕ, ЦІ ШУКАЕШ ТЫ МАЮ ЖОНКУ?
ЯНА ЎСЁ ЯШЧЭ ЗАКІНУТА Ў ІНШАЙ КРАІНЕ, ПАД ЧУЖЫМ НЕБАМ. УБАЧЫЦЬ ЯЕ – ЗА МЯЖОЙ МАІХ МАГЧЫМАСЦЯЎ. ПРАБАЧ, МУХ...
АЛЕ ТЫ ПРАЦЯГВАЕШ ШУКАЦЬ, ТАК?
БЕЗУМОЎНА, СЯБРА. КОЖНЫ ДЗЕНЬ.



ВЫ СПУСЦІЛІ ВЫДАТНАМУ ПРЫНЦУ З РУК **ЗАБОЙСТВА** СІНЕБАРОДА?
Я ТАКОГА **НЕ** РАБІЎ.
SECURITY OFFICE
B. WOLF
Я АРГІНАЗАВАЎ АФІЦЫЙНАЕ СЛУХАННЕ, ДЗЕ ЯМУ ПРАД'ЯВІЛІ ВІНАВАЧАННЕ Ў ЗДЗЯЙСНЕННІ ЗЛАЧЫНСТВА – НАЎМЫСНАГА **ЗАБОЙСТВА.**
АДНАК ПРЫ АДСУТНАСЦІ ЯКІХ-НЕБУДЗЬ ДОКАЗАЎ У ПРОЦІВАГУ ЯГО АБАРОНЫ, Я НЯ МЕЎ ІНШАЙ МАГЧЫМАСЦІ, АКРАМЯ ЯК ПРЫЗНАЦЬ ЯГО **НЕВІНАВАТАСЦЬ.**
І ЎСЁ ГЭТА БЫЛО ЗРОБЛЕНА Ў КРАЙНІМ ПАСПЕХУ, КАБ ВЫ ЯК МАГА ХУТЧЭЙ МАГЛІ ПЕРАЙСЦІ ДА БОЛЬШ **ВАЖНЫХ** СПРАЎ ПА ПАДЛІКУ ЗДАБЫЧЫ АД **ЯГО.**
**АКУРАТНЕЙ,** ВОЎК.
Я ЗБІРАЎСЯ ДАСТАЦЬ СІНЕБАРОДА ЗАКОННА. Я ПАДРЫХТОЎВАЎ СУПРАЦЬ ЯГО СПРАВУ, ЯКАЯ Б ДАКАЗАЛА, ШТО ЁН ЯШЧЭ ДОЎГА ПАСЛЯ ПАДПІСАННЯ ЎСЕАГУЛЬНАЙ АМНІСТЫІ ПРАЦЯГВАЎ ВЫМАГАЦЬ ГРОШЫ Ў КАЗАЧНЫХ, ЯКІХ ЁН РАТАВАЎ.
СПРАВА, ЯКУЮ ТЫ РЫХТУЕШ УЖО **КОЛЬКІ** ГАДОЎ, НЕ ЗНАХОДЗЯЧЫ **НІЯКІХ** ДАПУШЧАЛЬНЫХ ДОКАЗАЎ?
ПРАЦА Ў МЕЖАХ ЗАКОНА ЗАЙМАЕ ЧАС.
ВОСЬ І ДОБРА, СЭКАНОМЛЕНЫ ЯШЧЭ ГАДЫ ТВАІХ ДАЛЕЙШЫХ ВЫСІЛКАЎ.
ПРЫМІ ГЭТА І РУХАЙСЯ ДАЛЕЙ.
СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА ПАВЕДАМІЛА МНЕ, ШТО ТЫ ДАСТАТКОВА КАМПЕТЭНТНЫ Ў СВАІХ АБАВЯЗКАХ. НЕ ПРЫМУШАЙ МЯНЕ СУМНЯВАЦЦА Ў ЯЕ МЕРКАВАННЯХ.
12


ВЫГЛЯДАЕШ **ЛАЙНОВА**.
KNIGHTS OF MALTA HOSPITAL
ГЭТА **МЕДЫЦЫНСКАЕ** ЗАКЛЮЧЭННЕ?
ТОЛЬКІ НАГЛЯД, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА.
Я ДРЭННА СПАЛА МІНУЛАЙ НОЧЧУ, ДУРНЫЯ СНЫ.
ЖАДАЕШ МНЕ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСКАЗАЦЬ?
СКАЗАЛА Б, КАЛІ Б ПАМЯТАВАЛА. УСЁ НЕВЫРАЗНА, МАБЫЦЬ, ГЭТА ПРОСТА КАВАЛАК НЯСВЕЖАЙ **СВІНІНЫ**, ШТО Я З'ЕЛА ЎЧОРА.
МОЖАШ АПРАНУЦЦА. ЦЯЖАРНАСЦЬ ПРАХОДЗІЦЬ ДОБРА.
НЕ, НІЧОГА ДОБРАГА Ў ГЭТЫМ НЯМА. ЯНА РАЗБУРЫЦЬ МНЕ **ЖЫЦЦЁ**, МАЁ СТАНОВІШЧА Ў СУПОЛЦЫ І ТОЕ, ШТО **ЗАСТАЛАСЯ** АД МАЁЙ РЭПУТАЦЫІ.
КАЛІ ТЫ ТАК ЛІЧЫШ, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ **ВАРЫЯНТЫ**, У РЭШЦЕ РЭШТ, ЗАРАЗ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАЕ СТАГОДДЗЕ.


ЗАРАЗ ЖА СПЫНІЦЕСЯ, ДОКТАР СВІНОЕ СЭРЦА.
НЕ **ЎЗДУМАЙ** СКОНЧЫЦЬ ГЭТУ ДУМКУ.
АЛЕ Я ТОЛЬКІ...
ТЫ ЗАБЫЎ, ЯК АДРОЗНІВАЦЬ ЗВЫЧАЙНЫХ І КАЗАЧНЫХ, ЦІ ТЫ ВЫРАШЫЎ, ШТО Я СТАЛА **МЯСЦОВАЙ**?
Я ПАЧАЎ ГЭТА ТОЛЬКІ ТАМУ, ГЭТА ВІДАВОЧНА, ШТО ТАБЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА ГЭТА СІТУАЦЫЯ...
А З ЯКОЙ НАГОДЫ **НАША** РАДАСЦЬ СТАЛА СТАЯЦЬ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ?
**НЕКАТОРЫЯ** З НАС УСЁ ЯШЧЭ КІРУЮЦЦА Ў БОЛЬШАЙ СТУПЕНІ АБАВЯЗКАМ І АДКАЗНАСЦЮ.
БОЛЬШ НЯ ЗГАДВАЙ ГЭТА, ДОКТАР, КАЛІ ЖАДАЕШ **ЗАСТАВАЦЦА** ЧАСТКАЙ ФЭЙБЛТАЎНА.
14


ПРАХОДЗЬ, ХОБС. НАМ ШМАТ ЧАГО ТРЭБА СЁННЯ ЗРАБІЦЬ.
ВЕЛЬМІ ДОБРА, СЭР.
ВЕТРАНЫ ДЗЕНЬ, СЭР. ВАМ ТРЭБА ЎЗЯЦЬ КУРТКУ.
ДЗЯКУЙ, ДЖОН, АЛЕ НАМ ТРЭБА ПРАЙСЦІ ЎСЯГО НЕКАЛЬКІ КРОКАЎ.
НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ПРА СВАЕ МАСКІРОВАЧНЫЯ ЧАРЫ, СПАДАР ХОБС.
БЕЗУМОЎНА, СЭР.
Я БЕЗДАКОРНА СКАРЫСТОЎВАЮ МАСКІРОВАЧНЫЯ ЧАРЫ ЗА МЕЖАМІ ВУДЛЭНДА.
ЯКРАЗ ТАЯ ПАРА **ПАГАНЦАЎ**, ЯКІХ Я СПАДЗЯВАЎСЯ СЁННЯ ЎБАЧЫЦЬ.
ШЭРЫФ.
15


І ЯКАЯ ГЭТА Ў ЦЯБЕ СПРАВА **МОЖА** БЫЦЬ ДА **МЯНЕ**?
ТЫ ВЫВЕЎ СІНЕБАРОДА ЗА МЕЖЫ МАЁЙ ДАСЯГАЛЬНАСЦІ. А ТВАЕ МАХІНАЦЫІ З МЭРАМ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ ТАБЕ БЯСПЕЧНАСЦЬ...
... ПАКУЛЬ.
АЛЕ НЕ ТАБЕ, СПАДАР ХОБС. ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ПАДЛЯГАЕШ АБВІНАВАЧАННЮ ЗА СВАЮ РОЛЮ Ў ГЭТАЙ ЗМОВЕ.
УВОГУЛЕ НЕ.
Я ДАЎ ЯМУ ПОЎНАЕ ПРАБАЧЭННЕ Ў АБМЕН НА ЯГО НЕАЦЭННУЮ ДАПАМОГУ Ў РАСКРЫЦЦІ ШМАТЛІКІХ БЯСЧЫНСВАЎ ЯГО БЫЛОГА ГАСПАДАРА.
ТЫ **НЯ МАЕШ ПРАВА** РАБІЦЬ ГЭТА.
У ХУТКІМ ЧАСЕ БУДУ.
МЫ З ХОБСАМ ЗАРАЗ РАСПАЧЫ-НАЕМ ПЕРШЫ ЭТАП ГЭТАГА ДЗЕЯННЯ.
А ЦЯПЕР, КАЛІ ТЫ **ПРАБАЧЫШ** МЯНЕ, НАМ ТРЭБА САБРАЦЬ ЯШЧЭ ПЯЦЬСОТ **ПОДПІСАЎ**.
**НАЙВЫДАТНЕЙШАГА** ТАБЕ ДНЯ, ШЭРЫФ.


ДАВАЙ ПАЧНЕМ З ВУЛІЧНЫХ КРАМАК, ПЕРШ ЧЫМ ПОЙДЗЕМ ПА КВАТЭРАХ.
РЭШТА ДЛЯ ВАС.
НАРЭШЦЕ.
БОЗЛІ?
ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?
ЦЯБЕ ЧАКАЮ.
НАМ ТРЭБА ПАГУТА-РЫЦЬ.
ЛАЙНО, НАМ УЖО НЯ **ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ** ТРЭ-БА ПАГУТАРЫЦЬ, АЛЕ ТЫ АДМАЎЛЯЕШСЯ СУСТРАКАЦ-ЦА СА МНОЙ САМ-НАСАМ.
ДЫК ТЫ ТУТ ХАВАЎСЯ, БЫЦ-ЦАМ **САЧЫЎ** ЗА КІМСЬЦІ?



Я ВЕДАЎ, ШТО ПРЫБЛІЗНА ЗАРАЗ ТЫ БУДЗЕШ ВЯРТАЦЦА АД ДОКТАРА.
Я **СКАЗАЛА** ТАБЕ, ШТО МНЕ ТРЭБА ЧАС ПАБЫЦЬ НА САМОЦЕ.
СПРАВЯДЛІВА, **У НЕКАТОРАЙ МЕРЫ**, АЛЕ Я НЕ МАГУ ДАЗВОЛІЦЬ ТАБЕ ЦАЛКАМ ВЫКРАСЛІЦЬ МЯНЕ З ГЭТАГА.
ТАК ЦІ ІНАКШ, Я **БАЦЬКА** ДЗІЦЯ, ЯКІ МАЦНЕЕ Ў ЦЯБЕ Ў ЖЫВАЦЕ, І Ў ПЛАНАХ, ЯКІЯ ТЫ БУДУЕШ, У МЯНЕ ЁСЦЬ **НЕКАТОРАЕ** ПРАВА ГОЛАСА, НЕЗАЛЕЖНА АД ТАГО, **НАКОЛЬКІ** НАМ НЯЎТУЛЬНА ПОБАЧ.
Я...
ТЫ...
ТАК, БЕЗУМОЎНА, ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.
ТЫ **ЗАСЛУГОЎВАЕШ** МАГЧЫМАСЦЬ ВЫКАЗВАЦЦА, І ЯНА Ў ЦЯБЕ **БУДЗЕ**.
У НАС БУДЗЕ ДОЎГАЯ РАЗМОВА, Я АБЯЦАЮ. АЛЕ КАЛІ ЛАСКА, ПРОСТА ДАЙ МНЕ ЯШЧЭ ТРОХІ ЧАСУ. Я ПАКУЛЬ НЕ ГАТОВА. ЯШЧЭ ДЗЕНЬ, ДРУГІ.


ДОБРА, АЛЕ Ў МЯНЕ ЁСЦЬ І АФІЦЫЙНАЯ ТЭМА ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ.
ПОЙДЗЕМ, Я ПРАВОДЖУ ЦЯБЕ ЎНУТР. ТЫ ПОЙДЗЕШ НАВЕРХ ЦІ Ў КАБІНЕТ?
У КАБІНЕТ.
АПОШНІ ЧАС Я ДАЗВАЛЯЛА СВАЁЙ ПРАЦЫ ВЫСЛІЗГВАЦЦА АД МЯНЕ. МНЕ ТРЭБА НАГНАЦЬ УПУШЧАНАЕ.
Я Б АДДАЎ ПЕРАВАГУ ТАМУ, КАБ ТЫ ПАЙШЛА ДАДОМУ НАПРАСЦЯК У ЛОЖАК. ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ СТОМЛЕНАЙ.
КАЛІ ЛАСКА, НЯ БУДЗЬ СА МНОЙ МІЛЫМ, БОЗЛІ. НЯ ЗАРАЗ. ГЭТА ТОЛЬКІ ЎЗМАЦНЯЕ СІТУАЦЫЮ.
ДОБРА. ЗАРАЗ ДА СПРАВЫ. ТВОЙ БЫЛЫ ТОЛЬКІ ШТО ЎПАМЯНУЎ ШТОСЬЦІ, ШТО ВЫКЛІКАЛА Ў МЯНЕ ПАДАЗРЭННІ.
НАВОШТА ВЫДАТНАМУ ПРЫНЦУ ЗБІРАЦЬ ПЯЦЬСОТ ПОДПІСАЎ?
Я ДАКЛАДНА НЯ ВЕДАЮ. БЕЗУМОЎНА ГЭТА ЯКАЯ-НЕБУДЗЬ НОВАЯ СХЕМА, ЯКУЮ ЁН ПАДРЫХТОЎВАЕ.
НЕ, ПАЧАКАЙ!
О НЕ. ЁН НЯ БУДЗЕ!
ШТО?
ШТО?


ПОЙДЗЕМ СА МНОЙ.
ПАСТУШОК! ТЫ ДЗЕ?
ЁН СПІЦЬ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. ЁН НЯ СПАЎ УСЮ НОЧ.
ДОБРА, БУФКІН. ХОПІЦЬ І ЦЯБЕ.
ЗНАЙДЗІ МНЕ КНІГУ ПА ПРАВІЛАХ ПРАВЯДЗЕННЯ **ВЫБАРАЎ** У ФЭЙБЛТАЎНЕ.
НЕ МАГУ. **ГОБЛІН**-ДВАРЭЦКІ СІНЕБАРОДА НЯДАЎНА ЗАБРАЎ ЯЕ.
БОЖА МОЙ.
МОЖА АДЗІН З ВАС, **КАЛІ ЛАСКА**, СКАЗАЦЬ МНЕ, ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА?
Я НЯ ЎПЭЎНЕНА, ТАМУ ШТО ГЭТА НЕ АДБЫВАЛАСЯ РАНЕЙ...
...АЛЕ КАЛІ Я ПРАВІЛЬНА ПАМЯТАЮ, УСЯКІ ГРАМАДЗЯНІН ФЭЙБЛТАЎНА МОЖА СКЛІКАЦЬ АСОБЫЯ ВЫБАРЫ, САБРАЎШЫ ПЯЦЬСОТ ПОДПІСАЎ КАЗАЧНЫХ.
ДУМАЮ, МОЙ БЫЛЫ ЗБІРАЕЦЦА БАЛАЦІРАВАЦЦА Ў МЭРЫ.



Праходзяць дні, і вясна ўсталёўваецца паўтульней, каб пабыць некаторы час.
Дык што мы збіраецца рабіць з выдатным прынцам?
А што мы **можам**? На яго боку закон.
Ну, я дакладна ня маю ніякага намеру працаваць на яго. Я **пакіну** пасаду, калі яго выбяруць.
Навошта камусьці жадаць заняць маё месца?
Хіба я дрэнна працаваў?
Ня будзем папярэджваць падзеі. У яго яшчэ няма подпісаў. Але я павінен сказаць, што калі б вы не **адпусцілі** яго пасля заварушкі з Сінебародам, у нас было б больш **варыянтаў**.
TAP TAP TAP
Прабачце за ўмяшанне, але на вуліцы **мітусня** – штосьці, што, на мой погляд, вы пажадаеце ўбачыць.
Што ў **гэты раз**?
Безумоўна яшчэ праблемы на нашы галовы.
Яны ходзяць па трое.
Прымхі.


ДОБРЫ ДЗЕНЬ. МЯНЕ ЗАВУЦЬ ЧЫРВОНЫ КАПЯЛЮШЫК. І Я НЯДАЎНА ЎЦЯКЛА З ІМПЕРЫІ.
Я АФІЦЫЙНА ПРАШУ СХОВІШЧА Ў ФЭЙБЛТАЎНЕ.
NEXT:
Мноства уз'яднанняў